Год I. Травень № 3.

# Шлях Моладзі

... „Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі".

ЯНКА КУПАЛА.





ВІЛЬНЯ, 1929 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны — Вільня, Людвісарская вул. 1

ЗЬМЕСТ № 3:



---


# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска месячна . . . . . . . 35 гр.
„ на паўгода . . . . . . 2 зл.
„ на год . . . . . . . . 4 зл

Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак:

Цэлая старонка . . . . . . . . 40 зл.
Паўстаронкі . . . . . . . . 20 зл.
Адна чацьвертая старонкі . . 10 зл.

Абвесткі зьмяшчаюцца толькі на вокладцы.

**Адрас Рэдакцыі**: Вільня, Людвісарская № 1 — 23. (Wilno Ludwisarska 1 — 23).

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛА ДЗІ.

## Для Бацькаўшчыны!...

Ня варт чалавекам звацца той, хто ня мае перад сабой пляну свайго жыцьця і сваей дзейнасьці, ці інакш кажучы, хто ня мае Ідэалу, мэты свайго жыцьця.

Вось-жа моладзь, а тым больш, моладзь беларуская, каторая жыве ў вельмі кепскіх абставінах, павінна на гэта зьвярнуць асаблівую ўвагу. Моладзь беларуская павінна зьвярнуць перадусім увагу на здабыцьцё як найбольш асьветы, культуры, здаровага ,маральнага ўзгадаваньня і павінна заўсёды помніць аб беларускай незалежніцкай справе.

Добра нам усім ведама, што здабыць асьвету для беларускай моладзі вельмі трудна. Каб здабыць асьвету, трэба мець вельмі шмат грошай, каторых Беларусы ня маюць

Дастаць дапамогу ад ураду беларускай моладзі. таксама немагчыма. Моладзь беларуская ўрэшцe пазбаўлена навучаньня у роднай мове. З практыкі знаю, што куды барджджэй і больш можна навучыцца ў сваей роднай мове, чымся ў чужой, якую трэба пазнаць пакуль прыступіць да навукі. Цяперашні лік школаў у роднай мове, ня можа брацца пад увагу, пры гутарцы аб здаваленьні ў навучаньні дзеля сваей нязначнай колькасьці.

Здабыцьця здаровае маральнасьці таксама пазбаўлена беларуская моладзь. Выхаваньне маральнае дае нам Царква і Касьцёл. Гля Беларусаў аднак мала яны даюць у цяперашніх варунках, бо яны нясуць гэтае выхаваньне таксама ў мове чужой незразумелай.

І дзіўная рэч! Тыя людзі, якія самі здабывалі калісь сабе асьвету ў такіх-жа цяжкіх варунках, ня маюць ніякай увагі для тых, каторыя яшчэ ў цяжэйшых варунках здабываюць яе цяпер.

У такім палажэньні моладзь беларуская павінна ўзяцца за працу і то арганізаваную, а дзеля таго, што няма яшчэ сусім самастойнай арганізацыі беларускай моладзі, яна павінна гуртавацца каля гурткоў Бел. Інсуытуту Гасп.

і Культуры. Бо маючы добра сарганізаваны гурток Б. І. Г. і К., куды лягчэй вясьці якую-небудзь прасьветную працу. Калі гуртка няма, то моладзь павінна пастарацца сарганізаць яго і ўсімі сіламі здабываць сабе прасьвету, выкарыстоўваючы ўсе магчымасьці, каб потым магчы даць як найбольш карысьці для Народу Беларускага і Бацькаўшчыны Беларусі. І так, калі дзе ёсьць гурток Б. І. Г. і К., моладзь павінна арганізаваць курсы прасьветныя, а калі ня курсы, то агульнае чытаньне кніг, (калі ёсьць бібліятэка, а калі няма, то трэба як найхутчэй яе выпісаць) і арганізаваць лекцыі ў культурна-прасьветным і выхаваўчым дусе.

Моладзь беларуская не павінна змарнаваць аніводнае вольнае хвіліны, аніводнага вечару, яна мусіць кінуць карты і гарэлку, а ўзяцца за кніжкі. Цяпер-жа вясной і летам свабодны час, які толькі найдзецца, можна вельмі добра выкарыстаць, бо-ж непатрэбна памешканьне, у гэты час можна сабрацца ў лесе, ці дзе так на сьвежым паветры, прачытаць кніжку, газэту, а так-жа заняцца прыгожай беларускай народнай песьняй.

На такіх зборках, а так-жа паасобна, моладзь беларуская павінна працаваць на карысьць беларускай народнай справы. Перадусім яна павінна ўсьведамляць тую моладзь, беларускую, каторая яшчэ нясьведамая нацыянальна і распаўсюджваць беларускую літэратуру.

Адным словам, моладзь беларуская мусіць пасьвяціць сябе для Бацькаўшчыны, г. зн. — здабываць прасьвету, культуру і здаровую маральнасьць, здаровага духа, каб умець і магчы працаваць для Бацькаўшчыны. А калі ўся беларуская моладзь пасьвяціцца справе нацыянальна беларускай незалежніцкай, то Бацькаўшчыне нашай ня прыдзецца доўга ў нядолі і няволі цярпець!...

**Я. Н.**



# Беларуская моладзь і яе абавязкі.

...„Схамянайся-ж ты, моладзь, арліна!
Ўбок другі віхры веяць прымусь,
Бяры сьветач, ідзі за судзьбінай,
Ідзі з словам сьвятым: Беларусь!“
(Я. Купала „Спадчына“:
„Моладзі“ стр. 19).

Няўдзячная прошласьць кінула наш край на дно ўпадку, адабраўшы ад нас усё тое, што становіць адзнаку вольнага народу. Мы прымушаны былі ў бяздольлі цягнуць гэты цяжкі лёс праз цэлыя сталецьці, цярпець крыўды й паніжэньні, ды пакорна згаджацца на ўсё тое, што дыктавалі нам другія.

Такі стан рэчаў трываў аж да нашага веку, калі над нашым краем засьвяціла зорка надзеі; калі лепшыя сыны народу ўзварухнуліся, пачалі каля сябе гуртаваць што-раз шырэйшыя масы і вясьці да ўсебаковага адраджэньня. Гэты мамэнт адзначаецца няўтомнай барацьбой нашага народу за здабыцьцё сабе належных правоў. Праўда, барацьба няўдзячная, яна вымагаець многа ахвяраў, але затое высокая, сьвятая, якая вядзе да лепшае будучыні. І хоць гэта самая барацьба мае за сабою ўжо многа часу, многа яна ўзяла ахвяраў, аднак яшчэ той Ідэал, да якога імкнёмся, — неасягнуты. Нашая агульная цемната і адсталасьць, а з другога боку малая сьвядомасьць, сталі на перашкодзе бліжэйшаму зьдзейсьненьню агульна-народных ідэалаў.

Вось-жа мы, а перадусім молалзь нашая, павінны дбаць аб тое, каб гэтыя ідэалы не адлятаті ў бесканечнасьць, а былі блізкімі к зьдзейсьненьню. Сяньняшнія, адносна малыя яшчэ здабыткі на ніве нашага адраджэньня, не павінны прыводзіць нас да сумліву ў магчымасьць здабыцьця таго, да чаго імкнёмся.

— Чаго не здабылі сягоньня — здабудзем заўтра! — вось што павінна быць лёзунгам нашае моладзі. Бо хто-ж, калі ня моладзь павінна найбольш дбаць аб свой народ? Нішто іншае, як толькі служэньне народу ляжыць у яе сьвятым абавязку. Моладзь — гэта найздаравейшыя расткі грамадзянства, калі толькі гэтая моладзь маральна і духова здаровая. Дык каб у цэласьці апраўдаць сваю задачу перад будучыняй, моладзь перад тым, як выступіць на грамадзкую арэну дзейнасьці, павінна быць да гэтага адпаведна прыгатаванай. Моладзь павінна ўсестаронна самаўзгадоўвацца ў чыста народным духу, павінна перадусім

добра пазнаць свой народ, яго балячкі і патрэбы; павінна добра пазнаць і прысвоіць сабе тую ідэю, да якой народ імкнецца. Моладзь урэшце павінна шчыра і безінтэрэсоўна пакахаць ідэю, за якую змагаецца, бо без гарачай любові няма і ахвярнасьці, а якая так неабходная ў народнай працы.

Становішча моладзі ў народным руху аценіла ўжо гісторыя і вызначыла ей адно з перадавых месцаў. Гісторыя прызнала моладзі найбольшую актыўнасьць і самаахвярнасьць у кожным руху й барацьбе. І запраўды ня было яшчэ ніякага ў гісторыі народнага руху, гдзе-бы моладзь ня прымала актыўнага, а часта й перадавога ўчасьця. Кожны народ пакладаець на моладзь найбольш надзеі, як на наступаючыя пакаленьні, якія бываюць пераважна апраўданымі.

Дык апраўдайма-ж і мы надзеі нашага народу, ня сходзьма з тэй дарогі, якая вядзе да лепшага заўтра; працуйма, каб гэтае „заўтра" хутчэй наступіла!

Падымайма і ўсьвядамляйма цёмныя яшчэ масы, стараймася ўсякімі спосабамі выкарыстаць усе магчымасьці, якія толькі робяць крок уперад. Мала лічыць сябе сьведамым Беларусам, ды быць толькі наглядчыкам, трэба самому дзеіць, бо той, хто ў сваей працы ня йдзе наперад, ён ідзе назад. Згуртуйма-ж усе свае сілы й энэргію ў ахвяры для Бацькаўшчыны, падкладайма пад будову агульна-народнага гмаху моцны й здаровы фундамэнт, каб тое, што здабываем было вечнае. Працуйма толькі, а аб выніках свае працы няма чаго сумлевацца! Для асягненьня пастаноўленых перад сабою ідэалаў ня трэба фізычнае сілы, а толькі ахвярнае працы і моцнае няўзломнае веры ў тое, што чаго ня маем сяньня — заўтра яго здабудзем!

**Ст. Каліна.**

# Да працы!

Радасная вестка раскацілася па ўсей Беларусі, што Моладзь наша надумалася выдаваць часопіс п. наз. „Шлях Моладзі". Дакацілася гэтая вестка і да мяне ў далёкую чужыню і я з радасьцяй чакаў, калі выйдзе першы нумар.

О, якая радасьць панавала ў маёй душы, калі я атрымаў першы нумар „Шляху Моладзі"! Вялікае дзякуй Паважанай Рэдакцыйнай Калегіі, што й аба мне памятала. Аб вартасьці „Ш. М." — гаварыць ня трэба шмат: ад Яго вее шчырым беларускім патрыётызмам! А чаго-ж трэ' балей? Гэта ўжо сьведчыць аб вартасьці „Шляху Моладзі"

Дарагая Моладзь! Самі бачым, у якіх цяжкіх варунках пачала сваё жыцьцё, наша родная часопіс. Ці-ж дамо ёй загінуць? Ніколі! Нам трэ' добра разьдзьмухнуць ліхтар ась-

веты, культуры ў нашай Бацькаўшчыне, а ўсё пад родным сьцягам „Шляху Моладзі“. Толькі дарогаю пляновае арганізацыі мы дойдзем да сьветлага, лепшага заўтра!

Зірнём на польскую моладзь: яна мае свае гурткі, аркестры, бібліятэкі, народныя дамы; яна робіць зьезды, абзнаёмліваецца паміж сабой, будуе сабе лепшае заўтра. Праўда — ёй памагае ўрад, а хто-ж нам паможа?... Ніхто, Браточкі родныя! Ніхто! Нам трэ' самым узяцца да працы над самаўзгадаваньнем у беларускім народным духу. Хай нам прыкладам служыць, наша Паважаная Рэдакцыйная Калегія, якая ў імя ўсяго добрага для нас, Беларусаў, безынтэрэсоўна пачала працу.

З нотай магутнага Народнага Беларускага Гімну на вуснах пойдзем-жа разам, Браточкі, цеснымі радамі, нашым правільным „Шляхам Моладзі“ і, узнёсшы высока наш белчырвона-белы сьцяг, станем дружна да працы, каваць лепшае заўтра. Дык да працы, Браточкі, да працы!

**Сяргей Пяюн.**

---

# Пачатак друкарства.

(Працяг, гл. № 2 „Шл. Мол.“)

### Іван Гутэмбэрг.

Першым друкаром усяго сьвету быў Іван Гутэмбэрг. Радзіўся ён ў 1396 годзе, ў горадзе Майнцы. Паходзіў з багатай сям'і, бацька й маці належылі да патрыцыяў, каторыя цэлае сталецьце кіравалі горадам Майнцам.

Матку звалі Альжбетай, яна была апошняй з роду Гутамбэргаў. Каб ня даць зьвясьціся роду свайму, яна свайму малодшаму сыну Івану дала фамілію Гутэмбэрг.

Калі Івану Гутэмбэргу мінула 20 гадоў, у гэты час пачаліся сваркі паміж патрыцыямі і грамадзянамі ніжэйшага роду. У гэты час Іван Гутэмбэрг мусіў разьвітацца з сваім родным горадам і выехаць у горад Страсбург. У Страсбургу пажыў некулькі гадоў, а ў 1430 годзе была абвешчана амнэстыя ўсім бежанцам, каторыя ўцяклі, выгнаныя з Майнца. Калі-ж вярнуўся Іван Гутэмбэрг на бацькаўшчыну, ён заняўся друкарскай працай; нарэзаў шмат дошчачак і пачаў на каждай дошчацы на самым вяршку выразаць літары: на першай а, на другой б, на трэцяй в, і г. д. Нарабіўшы шмат такіх літараў, ён з іх складаў словы, намазываў чорнай фарбай і тады накладаў ліст паперы і далікатна прыціскаў, каб словы адбіліся-б на паперы. Вось гэтакім спосабам пачалі друкаваць кнігі.

Але, як ведама, каб залажыць друкарню, трэба шмат

грошай на розныя прылады, а ў Івана Гутэмбэрга — іх ня было.

Выратаваў з бяды гэтай Івана Гутэмбэрга адзін знаёмы — Ян Фаўст, які пазычыў Гутэмбэргу 800 гульдэнаў і апрача таго узяў на сябе яшчэ выдаткі на пэнсію работнікам, на паперу, фарбу і іншыя.

Тады Іван Гутэмбэрг пакупляў патрабнейшыя прылады друкарскія і пачаў працаваць.

Але ўзноў бяда — грошай не хапіла. Прышлося ўзноў пазычыць у Фаўста 800 гульдэнаў.

І вось ў 1451 годзе зьяўляецца на сьвет першая друкаваная новым спосабам **„Лацінская граматыка“** — Элія Доната.

Пасьля граматыкі Іван Гутэмбэрг пачаў працаваць над Бібліяй; гэта праца цягнулася каля 6 гадоў; скончыў яе 24 жніўня 1455 году. Біблія гэта мае 641 карту, на кожнай старонцы 42 радкі і затое яна называецца „саракадвухрадковай“. Цанілася такая Бібліі вельмі дорага.

У той час кнігі мала хто купляў, бо мала хто ведаў аб іх і надта дорага цаніліся. Такім чынам мала Гутэмбэрг на іх зарабляў, а грошы для Фаўста трэба было аддаць. І вось Фаўст падаў у суд Івана Гутэмбэрга і адсудзіў друкарню з усімі прыладамі.

Гэта была вялікая бяда для Гутэмбэрга. Але нічога не парадзіш, трэба кідацца як-небудзь і вось Гутэмбэрг знайшоў другога сабе таварыша лекара Канрадi Гумэры і ў 1460 годзе выдаў яшчэ адну вялікую кнігу на 373 старонкі „Лацінскую граматыку“ Яна-дэ-Януа.

І так праца памалу йшла з году ў год, але вось пачалася вайна і ад Івана Гутэмбэрга параскрадалі ўсе друкарскія прылады і Гутэмбэрг астаўся ўзноў з голымі рукамі.

Пад старасьць трохі ляпей стала жыць Гутэмбэргу. Ён атрымаў пасаду і невялічкую пэнсію. Але тут падышла сьмерць і ў канцы студзеня 1468 г. памёр; пахавалі яго ў Майнцы. Шмат дзе яму паставілі памяткікаў, але ён сам для сябе паставіў памятнік найважнейшы — гэта кнігу.

Пасьля Гутэмбэрга друкарні год з годам распаўсюджываліся па ўсім сьвеце. У нас на Беларусі паявілася у 1525 годзе. Першым беларускім друкаром быў Др. Францішак Скарына.

(далей будзе). **Я. Багдановіч.**

# Крыху аб паэтах.

Нашае сялянства часта не разумее значэньня слова паэт. Пакрысе прывыкаем замяняць гэтая чужое словасваім уласным словам—пясьняр. Але таксама і гэтае слова ня

ўсім зразумелае, або многія даюць яму значэньне зусім іншае. Некаторыя думаюць, што песьняр—гэта той, каторы песьні пяе. З гэтым можна згадзіцца. Адначасна трэба ведаць, што песьняр—гэта той, каторага ў чужой мове называем паэтам. Ён пяе песьні: прыгожыя, чароўныя, кожнага з чуткай душой захопліваючыя.

Пясьняр здалее творчасьцю кожнага захапіць, у той ці іншы спосаб падзеіць, каб нават сьляпы ўбачыў адмаляваны вобраз песьняром, глухі пачуў пекныя тоны-музыку, схаваную ў яго творчасьці.

Ня кожны той ёсьць паэтам-песьняром, каторы піша вершы. Можа быць які вершык, як кажуць на вёсцы: ёмкі складны і гладкі; могуць быць захаваны ў ім усе правілы, вершаваньня, але калі ў ім ня будзе ўложана душа і ідэя песьняра, то такі верш на чытача не падзеіць і дзеля гэтага ня можа быць залічаны да поэтычных твораў. Наш пясьняр М. Багдановіч у вершы „Песьняру“ кажа так:

„...Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш,
Абрабіць яго трэба з цярпеньнем,
Як ударыш ты, ён як звон зазьвініць,
Брызнуць іскры з халодных каменьняў.

На вёсцы часамі нехта напіша вершык і пасьля з гордасьцю называе сябе паэтам. Але мыліцца ён моцна.

Шмат у нас пішуць вершаў, але песьняроў ня шмат ёсьць. Каб лёгка было зрабіцца песьняром, то іх вельмі шмат было-б, але гэта людзі рэдкія, з асаблівымі прыроднымі здольнасьцямі, у душы каторых гарыць іскра Божая. Мусіць ня шмат ёсьць песьняроў калі ім памятнікі стаўляюць. І толькі вельмі рэдка здараецца, што з пад беднай нашай страхі блісьне вялікі талент, напр. Я. Купала. Я. Колас і іншыя. Вось такі талент прадзярэ хмару цемры і блісьне, як сонечны праменьчык; пасьля запальвае ў людзях агонь любові да бацькаўшчыны і да ўсяго сьвету. Хто такі талент—гэты дар Божы мае, той усім сьветам валадае, да яго ўсе клоняцца, бо ён вучыць сваімі песьнямі думаць глыбока і прыгожымі вобразамі захоплівае душу чалавека.

Паэт адчувае і снуе цені прошласьці, сучаснасьці і прышласьці. Значыцца, ён мае вышэйшую фантазію, як іншыя і больш чулую душу. Ён патрапіць усё адчуць, усё ацаніць.

Паэт сапраўдны мае тэму ў кожную пару году і кожнае ўражаньне дае яму матар‘ял. Паэт часта бывае ўсім і ўсюды, часта адрываецца думкай ад гэтага сьвету і дзесь сягае ў бязьмежную даль. Паэт што-раз то ўсё новыя малюнкі стварае. Праўдзівы паэт ня мае супакою, пакуль ня выльле свае думкі на паперу, Няпісьменны, але праўдзівы

паэт, таксама ня мае супакою, ён мусіць пяяць, расказываць байкі; гэтакія самародныя паэты стварылі народныя песьні і наагул народнае пісьменства.

Дык вось гэтак больш-менш выглядае паняцьце слова паэт-пясьняр.

Той, хто мае ў сабе поэтыцкую здольнасьць — гэту іскру, якая ў душы тліцца, хай стараецца распаліць яе, як у найвялікшае полымя. Асабліва на вёсцы хай зьвернуць увагу на сябе поэты-самародкі, бо ёсьць сярод іх здольныія адзінкі. Заклікаем іх да супрацоўніцтва ў нашай часопісі.

**М. Пецюкевіч.**

# Літэратурны аддзел.

## ДУМКІ ЛЯ ВЯЗЬНІЦЫ.

I.

Сумна... звесіў галоў,
Чуць ня плакаць гатоў...
Я іду... ўсё іду...
Ня пытайце, куды?
Мо' знайду? не знайду?
Можа ўбачу сляды...
Ў ланцугох пэўне йшоў
Вязень тут малады.
На снягу бачу кроў...
Тут ішоў
Не дамоў...
Яго гналі туды...
Плылі хмары ў гары...
Ад пары да пары
Падаў дождж, падаў сьнег.
Вязень нёс якісь мех.
Ён ісьці слаба мог
Ланцух дзынгаў ля ног
Да крыві скуру дзёр.
Ён жывець, не памёр!

II.

Стой! ня відзіш? Сьцяна!
Муравана-ж яна,
Вышыня! вышыня!
Задраў голаў, гляджу:
Вежа там, вежа тут
Аж праняў нейкі жут

Дзіўны вежы, скажу!
Так, дзіўныя яны:
З іх ня звоняць званы —
Там жандары стаяць.
Цэлы дзень, цэлу ноч,
Ім прыказ пільнаваць,
Каб ня ўцёк з турмы проч!
Прытуліў я свой твар
Да халоднай сьцяны,
А у сэрцы пёк жар...
Хоць той мур ледзяны.
Стагнаў, плакаў віхор,
Лісты з дрэў кудысь гнаў,
Кудысь гнаў на прастор..
Ў вежы дождж удараў...
Я стаяў і стаяў...

III.

Досьць стаяць, досыць ныць,
Табе сьцен не прабіць...
Ля дзьвярэй, ля вакон
Кругом стража стаіць.
Тут ёсьць сілы закон...
Няхай знае усяк: —
Проці волі маей
Аніхто не пасьмей
Даць праціўнасьці знак,
Бо інакш: Victis vae *).
— А ці-ж мэты свае
Сілай хто асягнуў?
— Вун агонь шугануў
І разліўся кругом —
Увесь край абняў ён,
Аж упаў моцны трон...
— І заняўся ўвесь дом
Б'ець пярун у гары
Разваліліс муры —
Птушкай вольнай ў прастор
Ляці вольнай душой
Так, як гэны віхор.
Гэй, ляці, вязень мой!
Бо муры ўжо ня жмуць, —
Хто-ж душу можа скуць?
13.III 29 г. *Я. Быліня.*

---

Vae victis — гора зваяваным.

## ТУДЫ!...

Туды, ты думка, ўсьцяж імкніся,
У край наш горам апавіты;
Там сьветлай хмаркай расплывіся,
Дзе людзі доляю забыты.
Туды, у Край наш беларускі,
Які люблю я ўсей душою,
На той загончык вельмі вузкі,
Дзе я гараў калісь сахою.
Туды, туды да роднай хаткі,
З якой душою й целам зжыўся,
Туды, ў сям'ю, да роднай маткі,
Дзе мовы роднай навучыўся.
Туды, туды, дзе ўсё мне міла,
Па чым душа мая сумуе.
Памкнусь туды, бо ёсьці сіла,
Бо хто-ж мне думку загамуе?!
Туды, туды у край пакуты,
Дзе цемра з ночаю пануе.
Туды, дзе звоняць зьдзеку путы,
Дзе брат зпрадвеку так гаруе!
Маланкай думка панясіся,
З праменьнем чыстага сьвячэньня,
Агнём любові раскаціся,
Будзі Народ да Ускрашэньня!

*Марвіч.*

—о—

## ПОКЛІЧ.

Гэй, Ты Моладзь дарагая,
Гэй, вазьміся за работу,
Каб нам доля больш ліхая
Не насеяла асоту.
Дружна-сьмела грамадою,
Будаваць пачнем Айчыну,
Хутка, жвава ўсей сям'ёю
Працаваць без адпачыну!
Досьць бацькі дасюль драмалі,
Нам ня трэба гэтак спаці,
Злыдні ў цемры нас трымалі,
Дык пайдзем жыцьцё спраўляці.
Мусім сьветач браць у рукі
І хутчэй ісьці ў народ—
Прасьвяціць сьвятлом навукі,
Цёмны наш Крывіцкі род.

Многа сілы мы йшчэ маем,
Дык чаго-ж нам бедаваці
Шчасьця, долю, мы спаткаем,
Як вазьмемся працаваці.
Гэй! арлы, вы маладыя
Думкай-сэрцам ўвыш шыбайце,
Душы іншых-жа слабыя
К сонцу-зоркам падымайце!..

*Марвіч.*

—о—

* * *

Над нявольнымі сялямі,
Над палямі, над лугамі,
Над далінамі й гарамі,
Над вадамі і лясамі
Покліч волі разлягаецца.

У вазёрах і балотах,
У арліных ўзвыш узлётах
Пад падзорачны высоты,
Ў душах цёмнае бядоты
Гучным рэхам адклікаецца.

З пакаленьня ў пакаленьне
Прыбывала ўсё мадзеньне,
Ўсё расло наша цярпеньне;
Аж урэшце вызваленьне
Вясёлкаю заірдзілася.

І бяда раптам прапала,
І нуды ўжо нам ня стала,
А тугі, як ня бывала:
Бо зара волі зазьяла
Й сэрца краю адрадзілася.

— — — — — — — — —

То не маланкі
Пасыпалісь з неба:
То не страляюць
Так пяруны,
То паднялася
Бяздольная глеба,
Гэта нявольнікаў
Усталі сыны.

*Бавыль Саган.*

—о—

## ЧУЮ — РЖУЦЬ...

Чую — ржуць пад брамай коні,
Будзіць рог заснуўшы бор.
Гэй, браточкі! — тож Пагоня
Мкнецца знова у прастор.

Шчасліў, хто бачыць
Пагоні сьлед,
Удачай значыць
Яе імпэт.

Яе дарога —
Палёў прастор,
Хоць межаў многа,
Лагчын і гор.

За ей-жа ціха,
Пад звон падкоў, —
Крадзецца ліха
І цьма крукоў.

Ды нікнуць страхі,
Туга і сум
Пад творчым знакам
Пявучых дум.

Праз стрэхі стромкі
Сялянскіх стрэх
Нясецца гонкі
Сталёвы бег.

О, Божа мілы!
К Табе у рай
Пагонь на крыльлях
Вядзе наш край.

*М. Машара.*

5·IV-29 г. Лукішкі.

—о—

## СЬМЕЛА ЙДЗІ.

Гэй!.. Хто знае шлях-дарогу
К небясьпекаў асьцярогу —
Сьмела йдзі!
А на страхі ночы цёмнай
У панурай і таёмнай
Не глядзі!
Шлях-дарога хоць далёкі —
Крэзва, цьвёрда стаўляй крокі, —
Не бядуй.

Мо‘ зьнямога падкрадзецца,
Трухла сэрцайка заб‘ецца —
Ня сумуй.
Ў небе іскры зорак сьветлых
Вечна мілых, вечна ветлых
Мільгацяць.
За гарамі, за лясамі
Ў цемры хаты аганькамі
Заблішчаць...
Гэй!.. Хто знае шлях дарогу
Й небясьпекаў асьцярогу —
Сьмела йдзі!
У зблукаўшых цемнатою
Ў тыя хоры за сабою
Знай, вядзі!..
*Ўлад.-Ініцкі.*

—о—

## ДУМКІ КРЫЛАТЫЯ...

Думкі крылатыя, думкі лятучыя,
Вы ёсьць аздобай ў жыцьці!
Вы — шматмагутныя, шмат нам даючыя,
З вамі ёсьць сэнс у быцьці.

Вамі ляту я ў прасторы надлюдныя,
У нетры спускаюсь зямлі...
Вамі змагаю хвіліны ўсе трудныя,
Шэрыя будныя дні:

Ўношуся ў далі прыгожа-цьвітучыя.
Ў далі тугі забыцьця...
Думкі крылатыя, думкі лятучыя,
Вы ёсьць аздобай жыцьця!
*В. Шкодзіч.*

—о—

## ДА БЕЛАРУСКАЕ МОЛАДЗІ.

Наперад ідзі дружным крокам
Да неба, да сонца, да зор!
Свабоды шукай сьмелым вокам!
Грудзьмі пралажы новы тор!

Зламі кайданы, Ты няволі
Сваёю магутнай рукой,
Зацьвіў каб шчасьліва на волі
Каханы Крывіцкі Край Твой!

З прыветам, з падзякай спаткае
Цябе, Моладзь, Крыўскі Народ!
Дык дружна, зара дзе лунае,
Да. сонца, да шчасьця ўпярод!

О, Моладзь,ўставай, спаць ўжо годзі!
Прачнуцца даўно ўжо пара!
Чароўнаю краскай на ўсходзе
Пылае свабоды зара!

9.11. 1927 г. *Сяргей Пяюн.*

—о—

## НАРОДНАЯ ПЕСЬНЯ.

Ляцела зязюля праз сад кукуючы,
Ог заплакаў-жа хлопец з вячоркі йдучы,
Прыйшоў ён да дому, ні сказаў нікому.
Палажыў-ся спаці, ня можыць устаці.
Прышла яго сёстра, стала яго будзіці: л
„Уставай родны браце—пайдзём мы гу яці“.
„Ня буду ўставаці, не пайду гуляці, —
Баліць мне галоўка, не магу падняці.“
Прыйшоў да яго брацятка, стаў яго будзіці:
„Уставай родны браце, пайдзём мы касіці.“
„Ня буду ўставаці, не пайду касіці, —
Баліць мне галоўка, не магу падняці.“
Прыйшоў яго бацька, стаў яго будзіці:
„Уставай родны, сынку, пайдзём мы араці.“
„Ня буду ўставаці, не пайду араці, —
Баліць мне галоўка, не магу падняці.“
Прышла яго маці, стала наракаці:
„Трэба было, сынку, дзевак не кахаці;
Вот адна дзяўчына кашульку пашыла,
Другая дзяўчына атруты падала.
Вот і табе, сынку, такая заплата:
Тры сасновы доскі і цёмная хата.“
Зазьвінелі звоны — смутная гадзіна —
Схавала сыночка праз адну дзяўчыну.

Запісаў *В. Тумаш* у в. Сьпяглі-цы. гм. Вішняўскай, пав. Вялейскага ад Я. Рукойціка.

# Разбудзіўся...

*„Той чалавек мае права жыць, каторы сам жыве для першай Прычыны свайго існаваньня і для тых, каторыя маюць права жыць“.*

Гэтакі сказ, выходзячы з клясы, напісаў на табліцы Міхась. Мімавольна яму гэта падыхтавала нейкая сіла. Напісаць гэтакі сказ пабудзіла Міхася думка: „Для якое мэты чалавек жыве?“ І ўрэшце даў сабе такі адказ: „Чалавек жыве дзеля таго, каб жыць для Таго, ад каго пачаў існаваць. Для тае Крыніцы, з якой паходзе яго ўласнае існаваньне — яго „я“. І да таго павінен імкнуцца, адкуль узяў свой пачатак. Чалавек-адзінка, павінен пакіраваць свой жыцьцёвы ручаёк так, як загадвае тое Жарало, з якога выплывае жыцьцё чалавека. Ён павінен кіраваць свае крокі жыцьцёвыя на такі шлях, каб споўніўшы сваё пасланніцтва, вярнуўся чыстым да першапачатнага Жарала. Жыцьцё чалавека — праплывае вялікія прасторы, напатыкаючы розныя гнілыя „балоты“ і іншыя заразныя месцы. Яно павінна быць усюды сільным, здольным праціснуцца між розных брудаў, пакідаючы за сабоў чыстыя сьляды Вялікае Праўды жыцьця.

Ідучы шляхам брудным, чалавек аддаляецца ад сапраўднага шляху жыцьця, і як дарогай бязмэтнай ня можа дайсьці да Жарала Праўды.

Чалавек павінен жыць для тых, каторыя жывуць...

Жыцьцёвы ручаёк чалавека павінен быць чыстым, і сваей крыштальнай вадой мусіць прамываць заплясьнелыя, малаводныя, бруднаводныя і заграсшыя ручайкі жыцьця іншых, якія ня жывуць сьветазарнай Праўдай Жыцьця. Кожны чалавек павінен споўніць заданьні свае, празначаныя Галоўным Жаралом, ідучы да мэты. Споўніўшы сваё заданьне чалавек зможа зліцца ў адно вялікае Мора Жыцьця Сапраўднага...

Ня думаў Міхась, што нехта прачытае гэты сказ.

Аднак быў ён прачытаны...

У вечары прышла другая зьмена вучняў на лекцыі. Першым у клясу прышоў Ясь, — сын вёскі, паходжаньня — Беларус. Лічыў ён сябе паляком, соцыялістым і зусім бязбожным. Прачытаўшы гэты сказ, напісаны на школьнай табліцы, злосна і паціху прабарматаў:

„Jaki-ż tu cham wlazł i napisał swoim krowim językiem“. — А пасьля падумаў, пэўна нехта крытыкаваў „хамскую мову“ і напісаны сказ пакінаў нясьцёртым.

І калі яшчэ нікога ня было ў клясе, іронічна пазіраў на гэты сказ, а ў сэрцах яго злосьць кіпела.

Раптам высунулася думка яму: „Для якой-жа мэты

я жыву?. — Тут ён крыху углыбіўся ў думку. У гэту-ж хвіліну папрыходзілі калегі і калежанкі. Палажыўшы кнігі, пачалі гуртавацца ля табліцы і пачалося чытаньне сказу, перакрыўліваючы кожнае слова. Што-раз узьнімалася бура дзікага рогату, бо кожны стараўся, як найбрыдчэй скалечыць беларускае слова. Ясь у гэты-ж час пачуў у душы, што ён грэшыць, што з сябе сьмяецца, з сваіх бацькоў, аднак удаваў такога, як яны — яго калегі. Зьвярнуўся да Яся адзін калега: „To pewno ty napisałeś w tym chamskim języku? To u was w Oszmianszczyźnie tak rozmawiają“. — О, не, не, я не пісаў, я ня ўмею так, у нас дома так не гавораць. Я зусім не разумею гэтае „хамскае мовы“—адмаўляўся Ясь. А ў гэтую мінуту сэрца моцна білася, твар чырванеў, вочы блішчэлі і голасам прыдаўленым гаварыў. Ён чуў, што лжэ, што адракаецца таго, што павінна быць найдаражэйшым. Выракаецца сваей мовы, бацькоў і свайго Народу. Чуў, што грэшыць, але няма рады, ня хочацца, каб даведаліся калегі аб гэтым, што ён „мужык-беларус“, бо будуць сьмяяцца з яго і з мовы ягонай. Пастанавіў „не здрадзіцца“. Аднак рысы твару, вочаў, вымова, зачырванелыя вушы і ненармальныя рухі яго здраджалі.

Калегі і калежанкі гэтага не заўважылі, бо былі заняты перакрыўляньнем беларускай мовы і дзікім рогатам.

Усю гэтаю ночку Ясь ня мог заснуць, бо сумленьне мучыла. Не давала ані хвілінкі супакою, бо ён зграшыў. Ён публічна грашыў, выракаючыся сябе і свайго роднага. А той сказ напісаны на табліцы стаяў перад яго вачыма.

Цяпер задаваў сабе пытаньні і рабіў закіды. „Дзеля чаго я жыву? Для каго я жыву? Каб адракацца, каб публічна грашыць, каб у Прычыну майго істнаваньня ня верыць? Дзе мая мэта? Да чаго я імкнуся? Дзе ідэал?...

Не, гэтак не павінна быць. Усяму злому ёсьць канец, канец паганы, які даводзіць да аканчальнага знішчэньня фізычнага і духовага. Я здрадзіў, я выракся, я сьмяяўся з сябе, я ў Бога ня верыў, я ня меў сьветлага ідэалу.

О, Божа! Даруй! Падымі мяне з пропасьці! Узнясі мяне вышэй! Пакажы мне сьветазарную мэту. Дай Цябе пазнаць. Навучы мяне кахаць, наш Беларускі Народ і ўсю людзкасьць!

Каб публічна паправіць свой праступак, на наступны дзень у клясе, Ясь заявіў сваім калегам і калежанкам: „Я Беларус, я той „хам“, з якога вы ўчора сьмяяліся разам са-мною. Я зграшыў, адракаючыся ад свайго імя. Я Беларус, сьмейцеся з мяне, з маей мовы, крытыкуйце, бо вас болей — ваша сіла. Я буду цярпець, бо я зграшыў прад Найвышэйшым Справядлівым Судзьдзёю і прад сваім Народам! Я буду цярпець, бо цярпеньні чалавека дасканаляць...

*Марвіч.*

# Лісты.

## МОЛАДЗЬ АПАМЯТАЙСЯ!

**М-ка Астрына**, пав. Лідзкі. У нашым м-ку сяляне мала сьведамыя. Асабліва моладзь нашая, як хлапцы, так і дзяўчаты вельмі цёмныя, шмат ёсьць такіх, што чытаць і пісаць няўмеюць. Нашая моладзь нічым не цікавіцца. Калі маець хто які грош, зараз яго пускае на гарэлку і на гульню ў карты з прычыны чаго часта даходзіць да крывавай бойкі.

Дык дарагая моладзь! Пара даўно апамятацца і замест зпрапіваць грошы і аддаваць іх на непатрэбныя рэчы, ляпей выпішам сваю новую часопісь для моладзі „Шлях Моладзі“, дык будзем ведаць, хто мы і што маем рабіць, каб паправіць долю свайго народу. Дык пара даўно апамятацца!

М. Шчырык.

## З НАШАГА ЖЫЦЬЦЯ.

**Опская гміна,** Браслаўскі пав. У нашай гміне сяляне па вёсках жывуць вельмі бедна, а найбольш даецца ў знакі бедната ў сёлетнім годзе, бо быў вялікі няўраджай. Вядома ўсім, што гдзе бедната там і цемната, дык і ў нашых вёсках пануе цемната. Моладзь не арганізуецца ў свае родныя, беларускія арганізацыі і не чытае ані кніжак, ані газэт. Затое за астатні, цяжка зароблены грош, п'юць гарэлку. Гарэлка — вораг людзей, — гэта вядома ўсім, бо яна шкодзіць здароўю людзкому, марнуе апошні грош, а перадусім шкодзіць дружбе моладзі.

Маладыя хлопцы напіўшыся гарэлкі вельмі часта пабюцца, ды пакрывавяцца нажамі. Вось да чаго даводзіць гарэлка! Але дзякуй Богу, і да нас сюды, ўжо пачала пранікаць іскра беларускай сьведамасьці. Ёсьць ўжо і ў нас такія людзі, каторыя стараюцца паправіць сваю гаротную долю.

Дык моладзь опскай гміны, пакінь піць гарэлку, а бярыся да карыснай працы, для сябе і Бацькаўшчыны-Беларусі.

Лявон Жалейка.

## І Ў НАС НЕВЯСЁЛА.

**Радашкавічы,** Маладэчанскага пав. Наша грамадзкая праца павінна зводзіцца да таго, каб усьведаміць вёску. Дабрабыт нашае вёскі залежыць ад культуры яе. Але-ж сама вёска яшчэ сяньня бязсільная. Нясьведамасьць і цемната, што ад вякоў блукаюцца па нашых вёсках, не даюць нам жыць палюдзку. Культурная праца па нашых акалічных вёсках не пашыраецца дзеля таго, што за апошнія часы вельмі зьбяднелі людзі. Заработкаў ніякіх няма, малазямельных і беззя-

мельных многа, ды яшчэ да таго цемната і неўсьведамленьне пануе, а перадусім недахоп сьвядомых і інтэлігентных сілаў. Усюды толькі і чуваць частыя нараканьні, што цяжка жыць, што быццам нехта прыдзе і паправіць наша жыцьцё! Не, дарагія браты, такія надзеі, мы мусім адкінуць. Як ведаем з гісторыі, ніхто нікому чужога лёсу не паправіў. Мы самі мусім узяцца (а перадусім моладзь) за грамадзкую, арганізаваную працу: закладаць па вёсках культурна-прасьветныя гурткі, як напр. гурткі Т-ва Бел. Інст. Гасп. і Культ., Т-ва Бел. Школы, трэба чытаць і пашыраць беларускія газэты і кніжкі, якія вас з кожным днём будуць усьведамляць. Кожны-ж усьвядомлены павінен стацца чэсным і карысным сынам нашай Маці-Беларусі, і калі будзе патрэба, то павінен быць гатоў і жыцьцё сваё аддаць за агульнае дабро свайго Народу. Адгукніся-ж, моладзь, на словы нашага паэты Я. Купалы, які ў сваім вершы заклікае:

„За праўду, за шчасьце, за лепшую долю
Вазьміся, мой дружа, пастой!“

Чабарок.

## НАШАЯ МОЛАДЗЬ.

**Арэхаўка,** Браслаўскага пав. З сумам трэба прызнаць, што нашая моладзь зусім ня цікавіцца грамадзкім жыцьцём. Яна цёмная, але і ня хоча быць сьветлай. Калі заахвочываем чытаць кніжкі і газэты, то толькі рукой другі махне кажучы: „На што нам гэта, бацькі нашыя былі ня граматныя, то і мы патрапім так жыць.“ Адно і мае на мэце наша моладзь, каб гаралкі напіцца, на вечарыну пайсьці, а іншыя дні вечарамі ў карты грае. Дык, калі гэтакімі будзем, то няма чаго спадзявацца лепшай будучыні.

Мы, моладзь, павінны самі рупіцца аб заўтрашнім дні, мы мусім каваць сваю долю. Калі пакінем благія навыкі, пакінем дарагі час марнаваць, а вазьмемся за працу? Калі мы, моладзь, возьмем сьветач у рукі, прасьвяцім сябе сьвятлом навукі і пойдзем іншых прасьвечаць? У працы супольнай, у зразуменьні апульным нашых ідэалаў — нашая будучыня. Дык да працы, пакуль у жылах кроў маладая плыве.

Іг. Пупін.

# Хроніка.

**Арышт маладога песьняра Ал. Дудара.** Падаюць газэты, што ў Менску арыштаваны беларускі пясьняр А. Дудар за напісаньне і пашырэньне вершу, у якім паэт

заклікае народ да змаганьня за нацыянальныя ідэалы.

**Набажэнства за душу сьв. п. кс. Стэповіча (Каз. Сваяка) і жалобная акадэмія** адбылася дня 6 г. м. ў Клюшчанах, Сьвянцянскага пав. пры вялікім ліку ўчасьнікаў.

Пасьля набажэнства ў Народным доме прачытаў вельмі цікавую лекцыю кс. Ад. Станкевіч аб жыцьці і літэратурнай дзейнасьці Сваяка.

**Лекцыя.** У нядзелю 12 г. м. была зладжана лекцыя Гуртком Б. І. Г. і К. у салі пры касьц. сьв. Мікалая.

Лекцыю прачытаў грам. інж. Л. Дубейкаўскі на тэму: „Рэформа будаўніцтва мястэчак і вёсак на Беларусі"".

Грам. інж. А. Д., так проста і зразумела выясьняў сваю тэму, што ўсе з вялікай увагай слухалі.

Трэба адзначыць, што грам. інж. Л. Д. адзіны ў Заходняй Беларусі і ў Усходняй Літве, каторы найлепш знае нашае старадаўняе будаўлянае мастацтва. Ён паадкрываў новыя спосабы прыгожага дзераўлянага і цэглянога будаўніцтва, якіх дагэтуль ніякія архітэкты яшчэ ня ведаюць. Толькі на жаль інж. Л. Д. ня можа выдаць друкам свае вынаходы дзеля неадпаведных матэрыяльных абставінаў. Пажадана, каб часьцей адбываліся такія карысныя лекцыі.

**Агульны сход Віленскага Гуртка Б. І. Г. і К.** адбыўся 7. IV. с. г. з наступным парадкам дня: 1. Справаздача за мінулы год, 2. Выбары новага ўраду гуртка, 3. Бягучыя справы.

У склад новага ўраду гуртка ўвайшлі: старшыня — М. Пецюкевіч, рэдактар „Ш. М.“, сэкрэтар — Я. Пешка, скарбнік—А. Лобан, сябрамі—Я. Найдзюк і А. Чайкоў.

**Новыя кніжкі**. Вышлі з друку і прадаюцца: „Čałаwiek“ — др. М. А., адбітка з „Chryś. Dumki“, Статут Т-ва „Biełaruskaje Katalickaje Wydawiectwa“, брашурка Ал. Стэповіча, „Biełarusy j dziaržaŭnaja niezaležnaść“, „Prahrama i Statut B. Ch. D.“.

# Усячына.

**Тэмпэратура нашых зорак і плянэт.** Некаторыя з тых зорак, якія мы бачым у пагодную ноч — гэта нішто йншае, як толькі надта адлеглыя сонцы, якія дзеля надта вялікай адлегласьці прадстаўляюцца нам маленечкімі пунктамі. Сапраўды-ж гэта ёсьць вялікія масы распаленай матэрыі, каторых паверхня створана з гаручых заўсёды газаў высокай тэмпэратуры.

Вучоным удалося зьмерыць тэмпэратуру паверхні гэтых зорак. Найвялікшую тэмпэратуру маюць зоры, даючыя яснабелы блеск; раўняецца яна 20.000 градусам. Меншую тэмпэратуру маюць зоркі коляру жоўтаватага, да каторых і нашае сонца можна залічыць. Паверхня іх, знаходзячаяся ў заўсёдным агні, даходзіць да 6.000 град. Ёсьць гэта зоркі старыя і, йдучыя ўжо да апошняй стадыі свайго разьвіцьця. Найніжэйшую тэмпэратуру выказываюць зоркі коляру чырвонага, якіх паверхня выказала толькі да 2000 град. цяпла, значыцца раўняецца тэмпэратуры гутнічнай печкі.

Тэмпэратуры плянэтаў ёсьць яшчэ і ніжэйшыя, маючыя толькі некулькі градусаў цяпла. І ёсьць таксама, як напрыклад месяц — зусім пагасшыя.

**Новая сусьветная мова.** Лёнданскі прафэсар Ц. К. Огдэн выдумаў новую сусьветную мову, якая складаецца толькі з 500 слоў. Гэтая мова ёсьць так лёгкая, што кожны можа яе навучыцца ў працягу аднаго месяца.

**З старога — малады.** У Канстантынопалі (Турцыя) на мэдычным факультэце мае ў хуткім часе адбыцца проба на 4 рох хворых, каторым, з мэтай адмаладзіць іх, будуць зашчэплены гручолы бараноў. Па думцы дахтароў адмаладжываньне, атрыманае праз зашчапленьне гручолаў малпы, утрымліваецца праз гадоў 6, а гручолы бараноў — праз паўгода.

**Шукаюць прозьвішчаў.** Туркі да гэтага часу паводле магамэтанскіх звычаяў ня мелі прозьвішчаў, а толькі імёны. А каб адрожніцца ад іншых, да свайго імя дабаўлялі бацькаўскае. Цяпер-жа, турэцкі парлямант выдаў загад, каб кожны Турак знашоў сабе прозьвішча і падаў уладам на зацьверджаньне.

Такім чынам 14 мільёнаў Туркаў павінны будуць знайсьці сабе прозьвішчы. Гэта будзе другі выпадак у падзеях людзкасьці, бо першы раз ў рожных краёх надавалі масамі прозьвішчы жыдам.

**Адкрыцьцё новых гор.** Расейскі геолёг Обручев знашоў на Сібіры, у краі Тунгузаў, новыя да гэтага часу ня

---

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:*
*Язэп Найдзюк, Ізабэля Тумаш, Альфонс Шутовіч і Уладыслаў Тарасэвіч.*

**Рэдактар Мар'ян Пяцюкевіч. Выдавец Янка Багдановіч**

знаныя горы. Ляжаць яны на паўночна-ўсходняй Сібіры, і ваколіцах, якія да гэтага часу на картах былі азначаны раўнінаю. Даўжыня гэтых гор 1000 клм., шырыня 300, вышыня мяйсцамі даходзе да 3000 мэтр. Рэкі, якія там плывуць, па славах Обручева, маюць шмат золата і плятыны.

**Дзе найменш няграматных.** Паводле статыстыкі, апрацаванай праз міжнароднае статыстычнае бюра ў Газе найменшую колькасьць няграматных выказываюць наступныя месты: Прага Чэская — 0. 67 прац., Вена—2.04 прац., Парыж — 3.36 прац., Будапэшт — 4.76 прац., Рым — 10.90 прац., Ленінград — 13.81 прац., Варшава — 16.96 прац., Масква — 22.42 прац., Букарэшт — 25.57 проц., Лодзь — 31.91 пруц., Кіеў — 44.62 проц.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

„Чорноморе“ Выдав. Укр. Студ. Корпорацый у Варшаве. На замену згаджаемся.

„Українскій Голос“ у Пярэмышлі. „Ш. М.“ пасылаем,

Ул. Казлоўшчыку. За прысланыя матэр‘ялы дзякуем, будзем карыстаць.

Рыгору Тамашуку. Скарыстаем з Вашага матар‘ялу і „Ш. М.“ пасылаем.

Ст. Татарыновічу. „Ш. М.“ пасылаем; пастарайцеся выслаць падпіску.

В. Божко. Просьбу Вашу спаўняем. Пашырайце „Ш. М.“ між Вашай моладзяй.

Ігн. Пупіну. Карыстаем з Вашай карэспандэнцыі. Пашырайце „Ш. М.“

М. Машару. Просьбу Вашу споўнілі. За прысланыя матрэ‘ялы дзякуем. Старайцеся пісаць арыгінальныя рэчы. Пераклады стараемся не зьмяшчаць.

Амяляшцы. Просьбу спаўняем. З матэр‘ялаў карыстаем.

Я. Паўлюкевічу. Просьбу спаўняем. Не забывайце аб падпісцы.

Л. Жалейцы. З карэспандэнцыі карыстаем. № 1 „Ш. М.“ выслаць ня можам, бо ўвесь разышоўся

Гуртку Б. І. Г. і К. у Радашкавічах. „Ш.М.“ высылаем, чакаем падпіску.

П. Чабарку. З карэспандэнцыі і некаторых загадак карыстаем; загадка вялікая не падходзіць да друку. Прысылайце больш народную творчасьць.

Я. Міско. „Ш. М.“ пасылаем, пашырайце між вуч. моладзяй. Не забывайце аб падпісной плаце.

а. Філевічу. Мы Вам акуратна высылаем нашу часопісь, але ня ведаем, чаму не атрымліваеце.

А. Леановічу. Просьбу спаўняем. Памятайце аб падпісцы.

К. Калесьніку. Газэта „За Працу“ даўно не выходзіць, рэдактара няма, дык хто-ж Вам грошы зьверне? Праўныя парады дадзём.

„Koło Młodzieży“ ў Крутым-Берагу. „Ш. М.“ пасылаем; чакаем падпісной платы.

Я. Блашчаніцу. Пробны нумар пасылаем; чакаем нападпіску

П. Шэняку. Пробны нумар „Ш. М.“ пасылаем; прысылайце падпіску.

В Пацкевічу. Пробны нумар пасылаем; просім высылаць падпісной платы.

Э. Трызно. „Ш. М.“ пасылаем.

М. Майсеенку. Пробны нумар „Ш. М.“ пасылаем; прысылайце падпісную плату.

А. Арэхве. „Bieł. Krynica“ выходзіць, адрас Ваш перадалі. „Ш. М.“ высылаем; прысылайце падпісную плату.

Ул. Скрабцу. Мы Р.К.О. ня маем, прысылайце грошы на адрэс: Wilno, ul. Ludwisarska 1—23 „Шлях Моладзі“, гадавая падпіска 4 злоты.

П. Баброўскаму. Пробны нумар пасылаем; прысылайце падпісную плату.

П. Лукашэвічу. Адрэс зьмяняем.

А. Нядбайліку. „Ш. М.“ пасылаем; грошы высылайце на адрэс Рэдакцыі.

Падпіску атрымалі ад: С. Новіка, Гэцмана, Я. Шэйбака кс. А. Дуброўскага, Бр. Даніловіча, Каз. Валасэвіча, па 2 зл. А. Яцыны 3 зл., Юрага Зімніцкага 4 зл. А. Цітовіча 1 зл. Ураду Літэр. Сэк. Клецкай Белар. Гімназіі 1 зл. 40 гр., М. Аляляшкі 1 зл. 50 гр. М. Некрашэвіча і П. Хартановіча па 1 зл.

## АХВЯРЫ.

На выдавецтва „Шляху Моладзі“ злажылі: Інж. Л. Дубейкаўскі 10 зл. Др. Бр. Туронак 5 зл., кс. праф. Л. Хвецька 5 зл. Ам. Астаповічанка 5 зл.

Ахвярадаўцам Рэдакцыйная Калегія шчыра дзякуе.